# Сустрэча прысвечаная Грамадзе

**19 верасня г.г. у будынку Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку адбылася сустрэча кіраўніцтва ВК ПАРП з былымі дзеячамі Беларускай сялянска-рабочай грамады, прысвечаная 50-годдзю гэтай рэвалюцыйнай арганізацыі. Справаздачу аб сустрэчы змесцім у наступным нумары.**


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 40 (1023) ГОД XX 5 КАСТРЫЧНІКА 1975 г. ЦАНА 60 гр.




**Сцэна з пастаноўкі „Міхалка" ў выкананні самадзейнікаў з Гарадка. Калектыў гэты ў сёлетнім цэнтральным аглядзе драматычных калектываў БГКТ заняў другое месца.**

**Фота Я. Цялушэцкага.**

КУЛЬТУРА Ў ГМІНЕ

# ХОР ды САЛІСТЫ

Даўжэюць вечары, і ў храмах культуры становіцца ўсё людней. Кожнаму хочацца культурна правесці вольны час. Вось іменна **культурна!** А як жа ў пачатку новага 1975/76 культурна-асветнага сезона выглядаюць справы культуры ў гмінах?

Паставіўшы сабе такое пытанне, я наведаў чатыры гміны: дзве на паўднёвай ускраіне нашага ваяводства — у Градзіску і Мілейчыцах, а таксама дзве ў яго паўночна-ўсходнім кутку — у Новым Двары і Крынках. Выбраў я спецыяльна гэтыя мясцовасці, каб мець больш поўны вобраз культурнага жыцця ў адлеглых ад гарадскіх цэнтраў гмінах.

У той час, калі ў кожнай са спамянутых гмін вызначаны і здзяйсняюцца канкрэтныя напрамкі развіцця гаспадаркі, дык ніводзін начальнік ці сакратар гміннага ўпраўлення не мог мне сказаць што-небудзь пра напрамкі развіцця культуры. Проста іх няма! І толькі падумаць: амаль тры гады культура ў гмінах сядзіць у цёмным запечку і нічога не ведае пра свой заўтрашні дзень. І не дзіва тады, што адказны за развіццё культурнага жыцця працаўнік гміннага ўпраўлення — яму апрача культуры даручана яшчэ вядзенне спраў гандлю, асветы і выхавання, аховы здароўя, а ў некаторых гмінах таксама рамяства, паслуг і нават апека над проціалкагольным камітэтам — справамі культуры займаецца час ад часу і то з думкай „абы з рук збыць", бо іншыя праблемы чакаюць неадкладнага вырашэння. Вядома: адзін у полі не воін — адзін працаўнік культуры ў гміне з месца не зрушыць. Гэта пад сілу значнаму калектыву людзей. А гмінныя ўпраўленні нават пальцам у боце не паварушылі, каб такія калектывы культурна-асветных дзеячоў паўставалі ў іх гмінах. А яны ж — аснова культурнага руху!

### ФАЛЬШЫВЫ ХОР

У Мілейчыцах і Новым Двары з першых слоў аб культуры я пачуў рознагалосы ды плаксівы хор нараканняў і на непрыглядны стан будынкаў, у якіх памяшчаюцца ГОК-і, і на недахопы фінансавых сродкаў на іх рамонт ды на культурныя мерапрыемствы і, урэшце, на безыніцыятыўную, а нават бескультурную мясцовую моладзь. І на самай справе. У глядзельнай зале ГОК-у ў Мілейчыцах сцены заплямлены рагамі зацёкаў, у падлозе прагнілі аграмадныя дзіры, а полап вісіць цяжарным жыватом і з дня на дзень чакай, што заваліцца. Невялічкая залка ГОК-у ў Новым Двары згарудавана ў стражац-

(Працяг на стар. 4)

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"

**Вялікі чытальніцкі конкурс ● І адзін у полі воін (Дубічы Царкоўныя) ● Самалёт сее ў Крынках ● Школа мастацтваў у Мінску ● І нас разбудзілі (сустрэча грамадоўцаў) ● Старонкі белавежскага турызму ● Новая цікавая аповесць у адрэзках ● Весткі з Чаромхі, Бельска, Турны, Паўночнага Вострава, Гайнаўкі, Снежкаў ● Калі сняцца грыбы ● Песня „Wojskowa orkiestra".**




Уявіце сабе 20 га поля, абведзеных драцяной сеткай ад зайцаў і... людзей, а на гэтым полі роўнымі шарэнгамі выстраіліся яблыні, грушы, абрыкосы...

Гэта сад інжынера Яна Барташэвіча з вёскі Кундзін у Сакольскай гміне. Едзем дарогай уздоўж гэтай агароджы, і, здаецца, няма ёй канца. Адны фруктовыя дрэвы. Тысячы, дзесяткі тысяч іх тут... І пах спелых яблык. Цяжка сабе ўявіць такі сад. Гэта ўжо хутчэй фруктовы лес. Дагледжаны ён, аднак, вельмі старанна, па-гаспадарску.

— З эканамічнага боку, — гаворыць інжынер Барташэвіч, — толькі такое мерапрыемства можа даваць добры прыбытак.

Інжынер Ян Барташэвіч — чалавек вопытны. Вышэйшую школу вясковай гаспадаркі закончыў ён яшчэ да вайны, у 1935 г. Быў тады адзіным чалавекам з вышэйшай адукацыяй на ўсю ваколіцу.

— У нашай сям'і, — сцвярджае ён, — заўсёды падтрымоўвалася традыцыйная пашана да навукі. Дзед мой вучыўся ў праслаўленай свіслацкай гімназіі, а бацька, нягледзячы на вялікі кошт, пастанавіў вучыць мяне. Спярша ў Беластоку ў матэматычна-фізічнай гімназіі, а затым у Варшаве. За навуку трэба было тады плаціць. Жыў я ў невялікім пакойчыку, дзе памяшчалася аж 7 студэнтаў. Мае месячныя, вельмі абмежаваныя выдаткі, дасягалі 100 зл. Гэта быў кошт адной добрай каровы. Каб выправіць мяне ў Варшаву, бацька вымушаны быў прадаць самую лепшую сваю кароўку. Памятаю, што я з трывогай лічыў бацькоўскіх красуль, прыкідваючы сабе ў памяці, на колькі часу хопіць іх, каб я мог вучыцца.

Інжынер Барташэвіч змоўк на хвіліну. Відаць, на хвалі ўспамінаў адплыў да далёкага мінулага.

— Выбачайце, — адгукнуўся ён зноў. — Я, здаецца, не на тэму. Вы хацелі пра сад...

— Яблыкі даспяваюць у той жа час, калі пачынаюць вучобу школьнікі і студэнты. Дык не зашкодзіць прыпомніць ім, як калісьці маладыя людзі даходзілі да інжынерскіх дыпломаў. А сад ад нас не ўцячэ.

— Пакуль я па-сапраўднаму заняўся садам, прыйшлося правандраваць амаль усю Польшчу. Дзе я не быў: у Келецкім, у Кракаўскім... чатыры гады працаваў настаўнікам на Палессі ў вёсцы Марачоўшчына, тады ў Косаўскім павеце. Ганаруся тым, што жыў я ў доме, дзе нарадзіўся Тадэуш Касцюшка. Прыходзілася па-рознаму: было вельмі добра, а здаралася, і галадна, і холадна.

У пачатку 50-ых гадоў вярнуўся я ў

(Працяг на стар. 2)



*Алея працоўнай славы.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# МІНСКІ АЎТАМАБІЛЬНЫ ЗАВОД

У жніўні 1944 года Савецкі ўрад прыняў рашэнне аб арганізацыі аўтазборачнага завода ў горадзе Мінску, якому было суджана стаць першынцам беларускага аўтамабілебудаўніцтва.

Першымі будаўнікамі аўтазавода былі ў той час нядаўнія партызаны. Іх прыйшло сюды 1.300 чалавек. Яны і прынялі на сябе асноўныя цяжкасці. Мінск ляжаў у руінах, не было жылля, транспарта, сталовых.

Але і пры ўсіх гэтых цяжкасцях будаўніцтва было пачата. Яно вялося пры братняй дапамозе ўсіх народаў краіны.

Ужо ў ходзе будаўніцтва пачалася падрыхтоўка рабочых кадраў для новага прадпрыемства. Будучыя аўтабудаўнікі навучаліся ў рамесных вучылішчах, у школах ФЗО, на розных курсах, у Мінскім аўтамеханічным тэхнікуме.

Завод праектаваўся для выпуска 15 тысяч аўтамабіляў у год грузапад'ёмнасцю 5-7 тон. Першыя аўтамабілі былі выраблены ў 1947 годзе. 7 лістапада 1947 года пяць першых аўтамабіляў-самазвалаў „МАЗ-205“ рухаліся ў калоне агульнагарадской дэманстрацыі, абвясціўшы тым самым аб нараджэнні ў рэспубліцы новай галіны прамысловасці — аўтамабілебудаўніцтва.

Рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі разумелі, як патрэбна была іх прадукцыя народнай гаспадарцы. І аўтазаводцы няспынна нарошчвалі тэмпы выпуска машын. К канцу 1947 года завод вырабіў 10 аўтамабіляў „МАЗ-205“. У 1948 годзе было выпушчана ўжо 206 аўтамабіляў, а ў 1949 годзе — 1207.

У 1951 годзе на заводзе пачалася вытворчасць грузавога аўтамабіля „МАЗ-200“ з бартавой платформай. У тым жа годзе калектывам была асвоена вытворчасць вялікагрузных аўтамабіляў-самазвалаў „МАЗ-525“ грузапад'ёмнасцю 25 тон, прызначаных для працы ў кар'ерах.

Працятваючы працу па стварэнню аўтамабіляў, калектыў завода ў 1956 годзе асвоіў серыйную вытворчасць аўтамабіляў-лесавозаў „МАЗ-501“, прызначаных для працы ў лясной прамысловасці. У тым жа годзе пачаўся выпуск аўтамабіляў высокай праходнасці „МАЗ-502“.

А ў канструктарскім бюро завода не спыняліся працы па далейшаму ўдасканальванню знаходзячыхся ў вытворчасці аўтамабіляў і стварэнню новых тыпаў машын.

Творчыя намаганні інжынерна-тэхнічных работнікаў прывялі да стварэння ў 1957 годзе новага тыпа аўтамабіля-самазвала „МАЗ-530“ грузапад'ёмнасцю 30 тон. У кастрычніку 1958 года на Сусветнай прамысловай выстаўцы ў Бруселі аўтамабіль „МАЗ-530“ быў удастоены вышэйшай узнагароды „Гран-Пры“.

Дзень 19 мая 1959 года ў калектыва завода быў асабліва ўрачысты. У гэты дзень з канвеера завода сышоў 100-тысячны аўтамабіль, а 27 сакавіка 1964 года — 200-тысячны.

За поспехі ў развіцці вытворчасці, датэрміновае выкананне пяцігадовых планаў у 1966 годзе завод быў узнагароджан ордэнам Леніна, а ў 1971 годзе — Ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі. Праца многіх аўтабудаўнікоў высока ацэнена Савецкім урадам. Звыш 3788 рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых узнагароджана ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза, а пяці з іх прысвоена высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы. На заводзе цяпер працуюць 18 лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі СССР, многім работнікам завода прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка прамысловасці БССР.

За параўнаўча кароткі тэрмін тысячы аўтамабіляў з эмблемай „Зубр“ працуюць у многіх раёнах Савецкага Саюза і цэлым радзе зарубежных краін.

**Ф. Васільеў**

Фота **Э. Трыгубовіча**

(Працяг са стар. 1)

## На яблыкі да інжынера Барташэвіча

родныя старонкі і стаў гаспадаром. Калі купляў мінеральныя ўгнаенні, суседзі смяяліся, што выкідваю грошы ў балота. Калі браў крэдыт, глядзелі на мяне з недаверам. Прабаваў я кантрактаваць вялікую колькасць канапель, ільну, травы. Браўся за агародніну, асабліва шмат садзіў цыбулі. І толькі ў 1964 г. засадзіў першыя тры гектары маладым садам. Праўда, яшчэ да вайны быў у нас 5-гектаравы сад, які я з бацькам засадзіў у 1935 г., аднак у вайну і пасля яе гэты сад амаль зусім знішчылі. І так пераставіўся я на садаводства.

Сакольшчына — гэта ўжо поўнач, а на дадатак у вёсцы Кундзін, дзе знаходзіцца сад інжынера Яна Барташэвіча, поле ўсё ў пагорках, для садаводства не зусім спрыяльнае.

— І глеба тут слабая, — кажа інжынер, — IV і V класы. Прыходзіцца шмат падкормліваць дрэвы мінеральнымі ўгнаеннямі.

Сад Яна Барташэвіча знаходзіцца пад апекай і кантролем Інстытута садаводства ў Скерневіцах. Гэта навукова-доследны цэнтр польскай садаводчай навукі.

— Выдатныя спецыялісты, — інфармуе наш садавод, — параілі мне, каб я пасадзіў сабе такія яблыні, як мекінфош, картланд, спартланд, дарэт, лёбо. Даюць яны позднія зімовыя яблыкі.

Таму Ян Барташэвіч будуе сабе аграмадны фруктовы склад для перахоўвання яблык. Каштаваць яму гэта будзе 1 мільён 200 тысяч зл.

— Я пастаянна штосьці будую, — заяўляе ён скромна, і ўжо плануе арашальную сістэму для рэгулярнага наваднення свайго сада.

— Я хачу давесці свой сад да такога стану, каб кожны гектар даваў не менш як 30 тон яблык.

**Віктар Рудчык**

## Увага, неўзабаве пачнецца!

**ГП БГКТ супольна з Ваяводскай бібліятэкай неўзабаве адкрывае цікавы чытальніцкі конкурс „Вялікая Айчынная вайна ў творах беларускіх пісьменнікаў“.**

**Да конкурсу „Ніва“ ў наступным нумары пачне друкаваць аповесць Васіля Быкава „Здрада“.**

**Падрабязныя звесткі аб умовах конкурсу знойдзе ў „Ніве“.**

**Усіх заахвочваем да чытання твораў беларускіх пісьменнікаў і да ўдзелу ў конкурсе!**

ШТО НОВАГА?

## Вярбуюць наёмнікаў

Усімі сіламі спрабуючы ўтрымацца на чале ўлады, расісцкі рэжым белай меншасці ў Радэзіі вярбуе замежных наёмнікаў у ЗША і Заходняй Еўропе. Як піша часопіс „Шпігель“, яны прыбываюць у вотчыну Сміта пад выглядам імігрантаў і адразу ж залічваюцца ў армію. Асаблівая перавага пры гэтым аддаецца „ветэранам вайны ў Конга“ і ўдзельнікам вайны ў В'етнаме. Кожнаму з наёмнікаў абяцана штомесячная плата ў 1.200 долараў.

Паколькі замежныя наёмнікі засылаюцца ў Радэзію пад выглядам імігрантаў, іх сапраўдную колькасць цяжка ўстанавіць. Тым не менш, адзначае часопіс, у мундзірах арміі Сміта ходзяць ужо некалькі соцень наёмнікаў. Сярод іх — „ветэран вайны ў Конга“ Майкл Хор і яго малойчыкі, якія „вызначыліся“ ў зверскіх расправах з мірным афрыканскім насельніцтвам. У пяхоце Радэзіі, піша часопіс, служаць англічане, амерыканцы, галандцы, аўстрыйцы. Аб іх часцей за ўсё даведваюцца па жалобных аб'явах. Вось адно з такіх паведамленняў: амерыканец Джон Ален Коэй, 22 гадоў, загінуў 19 ліпеня ў баі з „чорнымі партызанамі“.

У ЗША, указвае „Шпігель“, вярбоўкай наёмнікаў займаюцца сама меней дзве амерыканскія фірмы. „Фенікс асашыэйтс“, якая асталявалася каля Дэнвера (штата Каларада), вярбуе салдат для радэзійскай арміі праз часопіс „Шутынг таймс“. Другая арганізацыя „Мілітэры эдвайс команд інтэрнэшнл“ у Абінгдоне (штат Пенсільванія) вярбуе „ветэранаў в'етнамскай вайны“. У час вобыску ў Радэзійскім інфармацыйным бюро ў Вашынгтоне ФБР выявіла план вярбоўкі дзвюх тысяч амерыканцаў ва ўзросце ад 18 да 35 гадоў. Паводле даных часопіса цяпер у атрадах радэзійскіх карнікаў служаць не менш як 60 амерыканцаў.

У расісцкай ПАР наёмнікі для Радэзіі вярбуюцца ў Іаганесбургу, у атэлі „Дыпламат“ і ў адной піўной квартала Хільброу.

### ФІШЭР З'ЯВІЎСЯ...

Экс-чэмпіён свету Роберт Фішэр, паводле паведамленняў агенцтва Рэйтэр, выйшаў са свайго таямнічага самазняволення, каб... падаць іск супраць аўтара і выдаўцоў яго біяграфіі. Ён сам з'явіўся ў суд Лос-Анджэлеса і падаў паперы, патрабуючы 20 мільёнаў долараў ад Брэда Дарача і „Таймс-Лайф інтэрнешнл“, а таксама „Стэйн і Дэй“. Фішэр абвінаваціў аўтара ў парушэннях вусных і пісьмовых абяцанняў не закранаць некаторых дэталей яго асабістага жыцця. Дарач зблізіўся з Фішэрам у сакавіку 1972 года да матча амерыканскага шахматыста з Барысам Спаскім.

Кніга выйшла ў свет пад тэндэнцыйнай назвай — „Бобі Фішэр супраць астатняга свету“.

Пасля таго, як Фішэр падаў іск, ён зноў знік. І нікому з журналістаў не ўдалося пачуць ад яго ні слова. Магчыма, на самым слуханні справы „таямнічасць“ будзе адкрыта, і экс-чэмпіён у нейкай форме высветліць свае паводзіны, ці хоць бы іх матывы.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 4.X.** 6.20 Tech. Rol. Mat. 7.00 Bot. 9.10 Cień tamtej wiosny — film fab. pol. 10.00 Dla najmł. (kl. I—III) Czerwone, żółte, zielone. 13.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. 14.30 Mech. rol. 15.50 Red. Szk. zap. 15.45 Pr. I prop. 16.00 Pr. dnia. 16.10 Dzien. 16.20 Obiektyw. 16.40 Za kierownicą. 17.00 Z kamerą wśród zwierz. 17.25 Sobota Mł. 18.40 OSKAR LANGE. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Wołga, Wołga — film fab. radz. 22.00 Dzien. 22.15 Spotkanie z Henri Seroką. 23.00 Sport. 23.15 Opowieści Starszego Pana.

**Niedziela 5.X.** 6.25 Tech Rol. Hod. zwierz. 6.55 Mech. rol. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 TELEŘANEK. 10.20 Antena. 10.45 W starym kinie: „Monte Carlo”. 12.25 Lekt. Pegaza. 12.45 Przegląd Pol. 13.10 Dzien. 13.30 Tydzień. 14.00 Dla dzieci. 14.40 Piór. i węglem. 15.05 Refl. ob. 15.20 Operowe qui pro quo. 16.10 Sport. (II poł. meczu Ruch Chorzów—Stal Mielec). 18.05 Zalew Wiślany. 18.25 Żartoteka. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Freya z siedmiu wysp — film ser. fr. 22.00 Róże Montreux. 22.30 Sport. 23.00 Motywacje.

**Poniedziałek 6.X.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Zoolog. 15.55 NURT. 16.20 Pr. dnia. 16.25 Dzien. 16.35 Obiektyw. 16.55 Mecz: Dynamo Kijów—Bayern Monachium. 18.45 Mam pomysł. 19.10 Przem. Amb. NRD. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: Pavel Hajny — Wino domowej roboty. 21.25 Rep. film. 21.35 Świadkowie. 21.55 Rep. film. 22.25 Dzien. 22.50 Sport.

**Wtorek 7.X.** Tech. Rol. J. pol. 7.00 Zoolog. 8.25 Freya z siedmiu wysp — film ser. fr. 10.00 Dla najmł. (kl. I—III) Czerwone, żółte, zielone. 11.05 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wych. plast. Malarstwo cz. II. 12.00 (kl. IV lic) J. pol. L. Kruczkowski—Pierwszy dzień wolności. 13.45 Tech. Rol. Hist. 14.30 Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Nie tylko dla pań. 17.25 Na wielkim i mał. ekr. 17.55 Fakty. Op., Hip. 18.25 Studio Mł. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Bracia Lautensack — film ser. NRD. 21.10 Interstud. 21.55 Recital pios. 22.15 Dzien. 22.35 Sport. 22.45 Opera.

**Środa 8.X.** 6.30 Tech. Rol. Hist. 7.00 Mat. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chem. Gaz życia. 9.30 Bracia Lautensack — film ser. NRD. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Fiz. Elektrony w ciałach stałych. 12.00 (kl. VII) Chem. Węglowodany. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Mecz: Kadra Polska—Węgry. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Wspaniałe słowo wolność — film fab. radz. 22.40 Czym żyje świat. 23.10 Dzien. 23.25 Sport.

**Czwartek 9.X.** 6.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 7.00 Hod. zwierz. 8.00 Kurs Inf. 10.00 Dla szkół: (kl. II lic). J. pol. A. Puszkin. 10.30 Film fab. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szkole. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z brat. 18.05 Żywioły. 18.55 Poligon. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Teatr Sensacji: Napad. 21.20 Pegaz. 22.05 Dzien. 22.25 Sport.

**Piątek 10.X.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Geogr. Z plecakiem przez równiny i góry. 9.30 Książę Bob — kom. muz. węg. 12.00 Dla szkół: (kl. VII) Geogr. Kontrasty klimatyczne i roślinne Azji. 12.45 Tech. Rol Mat. 13.25 Bot. 15.55 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 18.00 Inf., Wyd. 18.15 Mała Encykl. Zwierz. 18.50 Sezam. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Oratorium E. Brylla i K. Gaertner. 21.35 Panorama. 22.15 Dzien. 22.30 Inf., Tow., Prop. 22.45 Sport. 22.55 IX Międzynar. Konk. Pian. im. F. Chopina.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 3.X.** — 13.35 Film fab. 17.30 Hokej. Dynamo (Moskwa)—CSKA 1 i 3 tercja. 19.30 Hokej. 3 tercja. 20.10 Fest. pios. w Kołobrzegu.

**Sobota 4.X.** — 12.00 Hokej. Skrzydła Rad — Spartak. 15.30 Film dok. 16.15 W świecie zwierz. 17.20 Film fab. 19.30 Operetka. 20.30 Sala tańców.

**Niedziela 5.X.** — 11.30 Film fab. 13.35 Koncert chóru chłopięcego. 14.15 Panorama międzynar. 14.45 Pr. muz. 15.30 Filmy anim. 16.15 Sergiusz Jesienin. 17.00 P. nożna. Torpedo—Zenit. 2 połowa. 18.00 Klub film. 19.30 Film. anim. 20.00 Pr. muz.

## КІНО

**Białowieża** Zbrodnia w klubie tenisowym — jug. 7—8. Mania wielkości — fr. 9—10. Wybaczeniem będzie śmierć — fr. 11—12.

**Czeremcha** Ned Kelly — ang. 7—8. Śmierć wybiera — czes. 11—12.

**Dubicze Cerkiewne** Człowiek, który przestał palić — szwedz. Zaczarowane podwórko — pol. 8—12.

**Gródek** Romanca o zakochanych — radz. 11—12.

**Kleszczele** Dzikie dziecko — fr. 7—8. Koniec wakacji — pol. 9—10. Godzina za godziną — pol. 11—12.

**Michałowo** Edomca — NRD 7—8. Wdowa Cuderoe — fr. 9—10. Ziemia obiecana — pol. 11—12.

**Milejczyce** Raport 36 — kor. 7—8. Tylko wtedy gdy się śmieję — ang. 9—10. Gorący śnieg — radz. 11—12.

**Narew** Helga — RFN. Osobliwa miłość — wł. 8—12.

**Narewka** Janosik — pol. 8—12.

**Nurzec** Brat dr Homera — jug. 7—8. Hrabina Cosel — pol. 9—10. Adaś i Ola — czes. 11—12.

**Orla** Faraon — pol. 8—12.

**Rajsk** Dowódca armii — radz. Gwiazdy są oczami wojownika — jug. 8—12.

**Suchowola** Zew krwi — ang. Dziewczyna z gór — jug. 8—12.

B.Z.Graf. Zam. 2360. P-1.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 201

## Сялянскія рукі

*Пішуць дзеі Айчыны*
*ад світання*
*да ўзыходу ночы*
*напружаныя над скібамі*
*у вечных гонках*
*у намаганні знойным*
*скамянелыя далоні*

*Як таран у бітве*
*аруць і кормяць*
*чэрнь зямлі роднай*
*працуюць*
*але не для пахвалы*
*а для сілы Айчыны*
*для ўзнёслай глёрыі працы.*

**Юрый Баена**

* ※ *

Хай ведаюць усе
што ўжо ад сёння
няма цябе
няма мяне
ёсць толькі супольнасць
што нераздзельныя
як пальцы ў далоні
мы пахіліліся над доляй
разгорнем радасці жыцця
і сціснем болі
увойдзем у шырокі свет
у працу і ў мары
і у жыцці пакінем след
нібы Іван ды Мар'я.

**Алесь Барскі**

## ЧАРАВІЧКІ

*Брат мой невялічкі*
*Задзірае нос,*
*Тата чаравічкі*
*З горада прывёз.*

*Чаравічкі жвава*
*Брат стаў абуваць.*
*Боцік левы, правы —*
*цяжка распазнаць.*

*Чаравічкі, ногі*
*Паблытаў Якуб.*
*Ды гэта ж нічога —*
*Тупу, тупу, туп!*

**Віктар Швед**

## Сустрэча з Мінскам

Ты, Мінск, сустрэў мяне
Начною цішынёй,
Гаворкай шумнай ліпеньскага дня,
Усмешкай ветлівай працоўных грамадзян,
Руплівасцю сучаснага жыцця.

Мне добра адпачыць
У зелені садоў тваіх,
І паркаў стройных і прыгожых;
Мне люба пастаяць
На Плошчы Перамогі
І кветкі палажыць
На глебу дзён суровых.
І хоць ў абдымках Мінска
Ненадоўга я,
Мой дом, за лесам тэлеграфных слупаў,
Папоўніцца чароўнейшым святлом,
І „Мінскі вальс" ён доўга будзе слухаць.

**Мікалай Варанецкі**

## Змежх на лонці

стопы
то так як кроплі росы
і
 так
  лёх-
   ко
на зубожалу лонку
    нэ порань
     трава
     выгледала будто морэ
     як дрымле
     в шэмранёві
    нэ збуді
     шчэ зэлёна
     і такая тіха
     в дотыкові
     жэ долонь
     засынае
нэ порань
 нэ збуді
  нэ...
дай юй такею зостатіся

**Зося Сачко**

* ※ *

*Адзеты ў патрэсканую*
*скуру звярэй*
*ганарыцца што чалавек*

---

*Стукат кія*
*на хрыбеце каня*
*пракляцце*
*„каб ты згарэла"*
*пена*
*з пашчы клубіцца*
*а хмары купаюцца*
*ў цёмнай бездне неба*

---

*Выць з бяссілля*
*што так баліць ад кія*
*і няма сіл цягнуць*
*што жыта стаіць*
*а дождж у паветры*
*дрыжыць.*

---

*лепш быць зверам*
*ці чалавекам?*

**Ніна Гаўрылюк**

## Стуканне душы

Стукаю у дрэва —
у адказ гудзенне.
На мой крык у лесе —
рэха галашэнне.

Бачу чалавека
голымі вачыма.
Падбягу, прыстану —
паварот плячыма.

Стукаю у вокны:
— Дзе святло, у ліха?
Стукаю у дзверы —
ціха, ціха, ціха...

Стукаю у сэрца —
Як бы ў камень цвёрды.
Так і астануся
з тым глухім акордам.

**Л. Танкевіч**

## Дзіця цыганкі

яно
мела такія зялёныя вочы
адкуль такія маці ўзяла
мела такія чорныя косы
як вада ў рэчцы ў поўнач
мела такія малыя ручкі
чорныя ад пылу на дарозе
было такое дзікае
прыгожае як дзікі коцік

чаму яно мяне ўкусіла
не знаю

**Міра Лукша**

**Верш з цыкла „Трызненні"**

## Гутарка з Нікім ці Засланенне

*Не знаю*
*адкуль гэта*
*у цябе*
*адкуль у мяне*
*не знаю адкуль*
*ва ўсіх бярэцца*
*Шкада што пытальнікі*
*самі сабе не адказваюць*

---

*Драма:*
*Было тры асобы*
*не... чатыры*
*(а можа і больш*
*сёе цяжка сказаць*
*так на пачатак)*
*Акцыя:*
*Стаіць мур (адна асоба)*
*а над ім*
  *— сінявокі анёлак*
   *— муру прадаўжэнне*
    *(другая асоба)*
*— Усё гэта бздуры*
  *(горка і іранічна*
   *трэцяя асоба)*
*А чацвёртая стаіць*
*і смяецца*

---

*Не выходзіць*
*не буду далей пісаць*
*навошта?*

---

*Не ўдалося адным словам*
*Мела быць трагедыя*
*амаль антычная*

---

*Ці хто бачыў*
*як плача певень (?)*
*я бачыла (і не хвалюся гэта праўда)*

---

*Не люблю*
*сама з сабой гаварыць*
*калі можна*
  *— люблю памаўчаць і ціха*
*толькі гэта рэдка*
*(столькі людзей на свеце)*

---

*Быў шнурок стары*
*(шкада новага (?)*
*І сухая галя*
*Чаму гавораць:*
*павесіць на сухой галі?)*

---

*Не разумееш*
*бывае што цяжка*
*сапраўды*
*(толькі здаецца лёгка*
*павер)*

---

*А шнурок стары*
*нядобры*
  *(рвецца*
*(хай яго чорт (!) )*

---

*А ўсё разам*
*— жарты*

---

*Так магла б пісаць*
*І пішу*
*— гэта толькі фантазія*
*смеху варта*

---

*А я вецер.*

**Ірэна Баравік**

**Мікалай Гайдук**




*„Въ лето 6492. Иде Володымеръ на Ятвяги, и победивъ я, взялъ землю ихъ и пришедъ ко Киеву творяше жертву идоломъ".*

*(Запіс у Гусцінскім летапісе пад 984 годам).*

У той дзень Стэкіс з самага ранку быў у малтуве — малым свіронку побач хаты, дзе стаялі жорны і хлебная печ. Ён дапамагаў сваім сёстрам і нявольніцам малоць жыта. Гэта меў быць першы хлеб з сёлетняга ўраджаю: пахучы, смакавіты жэйтс. Весела гаманілі сёстры, жвава завіхаліся нявольніцы. Першы хлеб — вялікае свята ў хаце. Румяны бохан на ручніку сёстры ўнясуць у хату ўрачыста, з песняй. Бацька разломіць яго напалавіну і першыя крышынкі сыпне па кутах хаты і пад парог каўкам — маленькім, ростам у мізінец, духам, што дбаюць пра жывіну і прыносяць збожжа. Іх пасылае на службу людзям бог Пушайціс, што жыве ў кусце бэзу. Пад бэзам хаваюцца часам і каўкі. Сёстры занясуць ім таксама туды крохаў і кабыляга малака. Няхай добрыя каўкі ўдоваль пасілкуюцца жэйтсам і пап'юць кумысу...

Веставы кунігаса згасіў вясёлую балбатню ў малтуве, як сіберны вецер свячу. Яго з'яўленне было такім нечаканым, што сёстры не паспелі схавацца ад чужых вачэй за печ. Так і застылі каля жарон і каробак. Сказ у веставога быў кароткі: кунігас — военачальнік іх воласці — склікае ўсіх здольных да зброі мужчын на сход у цвердзі.

Стэкіс купаўся ў лазні, абмацваў свае пругкія юнацкія мускулы, апранаўся па-святочнаму і снаваў згадкі аб сходзе. Кунігас не склікаў бы яко для благой справы. Канчаецца лета, напэўна, рушаць у наезд. Але куды: на крывічоў ці на дрыгавічоў, а мо на мазаўшан? Ён, Стэкіс, асабіста хацеў бы на дрыгавічоў. Там, кажуць, зброю рамейскую здабыць лягчэй. Купцы-госці з далёкага Канстанцінопаля часцей туды завітваюць; мячамі, шаломамі ды кальчугамі гандлююць.

Сонца хаваецца за высокія сцены цвердзі. Яна ўзведзена на сухім грудзе сярод балоцістай дрыгвы, абсыпана земляным валам, а на ім стырчма ўкопаны гладкія, завостраныя ўверсе, дубовыя камлі. Сюды, за гэтыя сцены, хаваюцца жыхары навакольных селішчаў у час вялікай небяспекі. У цвердзі стаяць толькі харомы кунігаса ды халупка вяшчка-крывейта.

Голас у крыве-крывейта хрыпаваты, зрываецца:

— Балюча вачам багоў нашых бачыць, як чужынцы на рубяжы зямлі нашай, судоўскай, зарацца. Іх дружыны ў нашых святых пушчах хацелі б прагульвацца, як у сваіх лядах. Сорамна вачам багоў глядзець, як воі нашыя, яцвяжскія, на памяць дзядоў і бацькоў сваіх забыўшыся, не палаюць жаданнем патаптаць капытамі коней сваіх быстраногіх вуліцы селішчаў і дзядзінцы цвердзяў ворагаў нашых. Ці не люба вам золата і серабро здабычнае? Ці ж замнога нявольнікаў на лядах вашых? Ці ж не цешаць вока вашае ткані, у паходзе прыдбаныя? Агідна вачам багоў нашых пазіраць на скупыя ахвяры, што зносіце ім на святыя трэбы. Посныя ахвяры вашыя! Ні адзіная кропля крыві варожай не зрошвае цяпер каранёў гаяў нашых святых. Марнеюць яны, занядбаныя!..

І вяшчок, са злосцю стукнуўшы сваім посахам-крывуляю, сышоў з лобнага месца.

Над натоўпам узвысіўся сам кунігас:

— Друзі мае верныя, і ты, моладзь харобрая! Два дні на зборы засталося. Збройцеся і прыбывайце!

Ён падыйшоў да абвітага прасмоленай саломай слупа, што стаяў побач лобнага месца, і, узяўшы ад прыслужніка пук палаючых лучынаў, прыткнуў іх да слупа. Полымя ядавітай вужакай узвілося па саломе.

І так, віці запалены — паход стаўся явай.

Натоўп вояў закалыхаўся, загаманіў, закрычаў.

* ※ *

Да цвердзі Бярэсце яны падышлі на шосты дзень пасля выхаду са сваіх селішчаў. Да самага надвячорка прасядзелі ў навакольных зарасніках ды багнах, а ў цвердзь кінуліся зусім перад змяркканнем, разам з табуном коней, што дрыгавічы заганялі нанач на дзядзінец.

Стэкіс не мог зразумець, ці гэта валяць па засохлай зямлі конскія капыты, ці ягонае сэрца ўдарае ўсёй моцай у рэбры грудзей. Ап'яняючая дзікая радасць несла яго наперад. У вачах расла цвердзь і табун коней, што павольна ўваходзіў у яе вароты. І ён бачыў, як адно жарабя адбілася ад табуна, гарэзліва брыкала побач, капытамі ўздымаючы маленькія клубкі пылу. За ім ганяўся чалавек, намагаючыся злучыць гарэзу ў табун. Павярнуўся тварам у іх бок і абмёр. У перадавых ездакоў штахнулі лукі. Чалавек было кінуўся да варотаў. Іх коні пераскочылі цераз яго цела, нашпікаванае стрэламі, і ўварваліся ў расчыненыя вароты цвердзі. На запоўненым дзядзінцы квічэлі коні, прарэзліва крычалі людзі, нясло гарачым потам і крывёю. Стэкіс валіў булавой з крамянымі гузамі па ўсім, што трапляла пад руку: па людзях і па конях. Потым ён саскочыў з сядла і кінуўся ў якуюсьці цёмную прадушыну дзвярэй.

У вуглу са свячой у руцэ стаяла жанчына. Каля яе ног, чапляючыся трапяткімі ручанятамі за матчыну спадніцу, кідалася двое немаўлятаў. Вочы жанчыны былі круглыя, вусны шырока раскрыты. Яна, хіба ж, крычала. Стэкіс размахнуўся булавою, але раптам рука яго абмякла, цемра засланіла вочы і страшэнна пацяжэўшая галава пачала хіліцца на гліняны ток падлогі..

Ачнуўся Стэкіс ад вострага болю ў галаве. Левае вока не расплюшчвалася. Правым ён убачыў іхняга суседа па селішчу, Рэгіса. Той папраўляў нешта на яго галаве, і ад кожнага дотыку вастрэў і мацнеў боль. Стэкіс застагнаў.

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 1)

# ХОР ды САЛІСТЫ

кай рамізе, сцены якой збудаваны ў адзін бетонны пустак, восенню, зімой і вясной іх дэкаруе, калі не іней намаразі, дык ручайкі сплываючай вады. У Мілейчыцах начальнік гміны паказаў мне дакументы, якія ён накіраваў у Бюро архітэктуры і камунальнай гаспадаркі ў Беластоку, каб яно падрыхтавала дакументацыю рамонту ГОК-у. Бюро адмовілася і справа на гэтым першым і апошнім кроку заглохла. Новы Двор хоча будаваць новы ГОК, ваяводскія ўлады быццам бы абяцаюць на гэта сродкі. На гэтым хаценні пакуль што справа таксама затрымалася.

Калі ў сядзібах гмінаў культура жыве ў такім стане, дык чаго чакаць ад святліцаў і клубаў у вёсках?! Іх адкрываюць і закрываюць там у залежнасці ад таго, ці знойдзецца якая-небудзь дзяўчынка на светліцовую ці клубовую, нейкі пакойчык да найму ў прыватнай хаце і мінімальны абарот з продажу папяросаў, аранжады ды мыла. Калі аднаго звяна з гэтай адзінай цэласці няма, тады няма і кутка для культуры ў вёсцы. Гміннае ўпраўленне чуецца тады вольным ад абавязку штонебудзь рабіць... І ўсё гэта нягледзячы на тое, што вакол Мілейчыц і ў самым мястэчку браць-неперабраць ахвотных моладзі і дарослых да дзеяння на ніве культуры. У Новым Двары быў некалі драматычны калектыў, нават сам цяперашні начальнік гміны Т. Штабінскі прымаў у ім удзел... Што ж, панаракаць лягчэй, чым згуртавацца ды ўзяцца за салідную работу!

### САЛІСТЫ

І сярод гэтай абыякавасці ды нічоганерабення выбіваюцца чыстыя і прывабныя постаці людзей, што аддана і з выдатнымі вынікамі працуюць на ніве гміннай культуры.

Клуб у Градзіску памяшчаецца ў вонкава непрывабнай старой хаціне. Але ўвайдзіце туды! Чысціня, лад, густоўныя дэкарацыі. На працягу 10 год свае працы кіраўнік клуба **Ядвіга Алексюк** патрапіла стаць культурным важаком мястэчка. У яе працуе народны універсітэт, школа здароўя, калектыў гітарыстаў, часценька адбываюцца сустрэчы з пісьменнікамі, журналістамі, грамадскімі дзеячамі. Вядзецца праца з дзяцьмі. Аснову ўсіх культурных пачынаў складае мясцовы актыўны гурток Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі.

Або ГОК у Крынках. Займае ён тры пакойчыкі ў змуршэлай колішняй мяшчанскай камяніцы. Моладзь сама яе адрамантавала, памалявала, прыбрала. І амаль кожны дзень ён трашчыць у швах, столькі збіраецца тут ахвотных прыемна і культурна адпачыць. А ёсць пры чым! Выступленні мясцовага музычнага калектыву, дыскатэка, вечарніцы, конкурсы, самыя разнастайныя выстаўкі, веласіпедныя экскурсіі па ваколіцы для старэйшых і пешыя экскурсіі для дзяцей, канцэрты беластоцкай філармоніі, сустрэчы з цікавымі людзьмі і вялікі грамадскі пачын наведвальнікаў ГОК-у пры пабудове купальнага басейна. А душой усяго гэтага з'яўляецца **Лідзія Яновіч** — кіраўнік ГОК-у, што прыступіла да гэтай працы толькі ў сакавіку бягучага года. А якія ў яе планы! Перш за ўсё ажывіць мясцовы гурток БГКТ і на яго базе стварыць хор або танцавальны калектыў, адкрыць курс сучаснага танца, музычны калектыў расшырыць і ператварыць у вакальна-музычны ансамбль і г.д.

Вось такія салісты і патрэбны гміннай культуры. Але яны не з'явяцца самі ў Мілейчыцах, Новым Двары ці іншых гмінах, іх трэба знайсці, натхніць і стварыць магчымасці для развіцця звонкага высакароднага голасу.

**Мікалай Гайдук**




*Адзіная ў вёсцы Ласіняны, што ў гміне Крынкі, культурная ўстанова — клуб — будзе ліквідаваны, бо мае малы даход з продажу аранжады, папяросаў і мыла. Што ж, відаць, культура ў Ласінянах зусім змылілася.* (м.г.)

# Варта падумаць

Праўда, палявыя работы ўжо канчаюцца, але кожны ведае, колькі клопатаў было звязана з імі.

Куды дзець дзяцей, што з імі зрабіць?

Гэтая праблема кожны дзень турбавала бацькоў. І дома пакінуць адных нельга, і ў поле браць на цэлы дзень нязручна. Аднак некаторыя вёскі знайшлі выхад з гэтага, здавалася б, цяжкага становішча. Узяць хаця б Сакі, што ў Бельскай гміне. Ужо трэці год гурток вясковых гаспадынь пры дапамозе філіяла СКР у Пасынках арганізоўвае пры клубе селяніна дзяцінец на час ад 3 верасня да 3 кастрычніка. Якраз час капання бульбы і іншых коранеплодаў. Навошта цягаць дзіця з сабой, калі можна пакінуць, без ніякага хвалявання, што некуды ўлезе, у клубе.

Валянціна Лапацюк, якая апякуецца гэтым дзяцінцам, мае пад наглядам 13 дзяцей. Ад $8^{00}$ да $18^{00}$ прабывае з імі. Расказвае казкі, уключае тэлебачанне, настаўляе праігрывацель. Калі цёпла і няма дажджу, выходзяць гуляць на двор. На панадворку стаяць два каляровыя шатры і вялікая колькасць цацак і прылад для гульняў.

Што з ежай? Знайшлі выхад і з гэтага. Бяруць яе дзеці часткова з сабой, выходзячы з дому, а часткова атрымоўваюць у клубе.

Варта падумаць, а пераважна тым вёскам, у якіх гэтага яшчэ няма. Зручна. І бацькам спакайней, і дзеці лепш сябе адчуваюць у групе. Толькі намнога лепш было б арганізоўваць дзяцінец, пачынаючы ад жніў. Падумайце. Можа, якраз на наступны год удасца зрабіць так.

**М. Ш.**,
Фота **Я. Цялушэцкага**



*Дзеці з Сакоў хутка падружылі са сваёй маладой выхавацелькай.*




### СКАНДАЛ У АЛЬТАНЦЫ

Быў клапатлівым і верным мужам. Шанавала я яго і любіла, можа так, як ніхто. І шчаслівай я была. Ён мне памагаў выпраўляць дзяцей у школу, многа працаваў на агародным участку, што за горадам. Зрабіў там прыгожую альтанку, пабудаваў міні-домік, памаляваў яго алейнай фарбай, выбіў пільсняй, купіў і паставіў там тапчанік, каб на сваёй „дзялцы" можна было і папрацаваць, і пасядзець у альтанцы, і адпачыць у міні-доміку. Задаволена я была, што муж прыносіў дахаты са свайго агарода салату, цыбулю, раннюю бульбу, памідоры. Часам хадзіла туды памагаць яму ў працы. Шчыра кажучы, я не любіла капацца ў зямлі, займацца агародам. Таму рэдка там бывала. А муж, як распачнецца вясна, забіраў часта нашу сабачку і там дняваў і начаваў, нават гаварыў, каб я не рыхтавала яму есці. Ён сам сабе падрыхтуе, бо ў хатцы быў турыстычны газавы балон, патэльня, некалькі каструль і шклянак. І ўсё было б у парадку, каб не прыйшла аднойчы да мужа тэлеграма з вёскі, звязаная з нейкімі зямельнымі справамі. І тую тэлеграму з дачкою і нашым Бобікам мы панеслі мужу. Падыходзячы да доміка, я заўважыла, што мой муж, ззяючы як радуга, ідзе сустракаць нейкую даму. Мы схаваліся за кусты. Ну, думаю, нацкую сабаку. Папёр Бобік. Ну, думаю, наш Бобік злосны, паабрывае ёй лыткі, і забудзе яна сюды дарогу. Але дзіва! Бобік падбег да яе, стаў віляць хвастом і падскакваць, як да сваёй гаспадыні.

— Значыць, яна тут часта бывае, — зразумела я. Злосць і нянавісць стала распіраць мае грудзі, калі я ўбачыла што мой муж з ёю пацалаваўся, а пасля, агляну ўшыся кругом, пайшлі ў наш домік. Пасядзеўшы за кустамі мінут дзесяць, я пайшла да нашага доміка і праз няшчыльна завешаную фіранку ўбачыла ўсю праўду. Хацела крычаць, біць вокны, плакаць... Але непадалёк стаяў снапок саломы. Папрасіўшы ў незнаёмага чалавека запалкі, я гэты сноп саломы раздзяліла на дзве часткі і запаліла каля аднаго вакна і дзвярэй, а сама пайшла ў альтанку. Калі бухнула агнём сухая салома, страшэнна стаў брахаць і выць сабака, а з доміка ў трусіках выскачыў муж, а за ім яго каханка з сукенкаю ў руках. І пачалі яны крычаць: „Людзі, хуліганы домік паляць, міліцыю!" І я тады, як міліцыянер, выйшла з альтанкі. І сціхлі яны. Тады стала я крычаць і плакаць. Каханка пабегла, муж аслупянеў ад нечаканасці і сораму, дачка пайшла ў домік і прынесла адтуль шакалад, а Бобік з доміка прынёс у зубах нагавіцы мужа. З суседняга доміка выйшла жанчына, паглядзела на гэтую камедыю і сказала ўголас: „Так ужо ёсць, што жонка аб здрадзе мужа даведваецца апошняй".

**М. Сваяк**

# ПЕРШЫЯ КРОКІ

У многіх гмінах ужо існуюць, а ў некаторых яшчэ арганізоўваюцца спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў. У Сямяцічах арганізавалася такая спулдзельня ў палавіне ліпеня гэтага года. Сваёй дзейнасцю ахоплівае яна горад і гміну Сямяцічы.

Нягледзячы на сваю, так сказаць, маладосць, гэтая спулдзельня прыняла ўжо ў загаспадарванне больш як 200 га зямельных угоддзяў, на большай частцы якіх (130 га) засеяла ўжо жыта, а на астатніх 70 га вясною засее ярыну. Апрача таго, спулдзельня ўзяла ў загаспадарванне 40 га гарадской супольнай зямлі.

Сёння спулдзельня сельгастурткоў налічвае больш як 19 тыс. га зямельных угоддзяў. У планах спулдзельні апрача прадукцыі сельскагаспадарчых культур прадбачана адкормка свіней. 1000 месц будзе мець будучы свінарнік. Для адкормкі выкарыстаюцца адходы з мясцовай малачарні — сыроватка і маслянка.

Гаспадаранне на такім аграмадным абшары зямлі патрабуе павелічэння машыннай базы сельгасмашын і пабудовы рамонтных варштатаў. Усё гэта ўзята пад увагу, і па меры развіцця сваёй дзейнасці сямяціцкая спулдзельня сельгастурткоў пад кіраўніцтвам Пятра Новіка (чалавека з багатым вопытам) будзе намагацца стаць вялікай узорнай гаспадаркай у Беластоцкім ваяводстве.

(мх)




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА



### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXV

**Рэлігійная тэматыка.** Выразна антырэлігійны матыў выступае ў вершы „Паэту". Твор гэты прысвечаны далёкім ад рэлігійных праблемам. Верш можам назваць творчым „credo". У ім паэт гаворыць аб характары літаратурнай творчасці, аб патрэбе цеснай сувязі паэта з народам, а паэзіі з грамадскім жыццём. І якраз у кантэксце гэтых праблем Гарун закрануў справу рэлігійных ісцін. У трэцяй страфе верша маем дачыненне з выразнай антырэлігійнай алюзіяй. Звяртаючыся да паэтатварца, Гарун гаворыць, што не павінен ён „спяваць аб праўдзе тэй, што ў небе":

> Пакінь, пакінь спяваць аб праўдзе
> тэй, што ў небе!
> Яна чужая нам, таемных праўда сіл;
> Яна не сходзіць к нам у кончанай
> патрэбе,
> Калі пакутны дзень так довег
> і не міл".

Уся прыведзеная страфа адназначная. Паэт гаворыць, што нябесныя праўды не з'яўляюцца праўдамі чалавечымі, што яны адарваныя ад людзей і чужыя людзям. Няма сумненняў, што тут на ўсе рэлігійныя догмы глядзіць паэт, як на старажытныя ісціны, якія не маюць уплыву на вырашэнне грамадскіх спраў і чалавечых патрэб. Сэнс Гаруновай паэтычнай фразы просты: неба бяссільнае ў зямных праблемах. І таму вырашэння ўсіх зямных патрэб трэба шукаць не ў абстрактных дэістычных уяўленнях, а ў рэальным грамадстве.

З выразна гумарыстычным паказам рэлігійнай праблематыкі сустракаемся ў паэмцы „Шчасце Мацея". Твор гэты мы ўжо разгледзелі пры нагодзе характарыстыкі фальклорных матываў у творчасці Гаруна. Падыход да святога Юрыя і бога як нармальных людзей, рада, дадзеная селяніну богам, каб не аддаваць пазычаныя рэчы, не змяшчаюцца ў ніякім выпадку ў рэлігійных догмах і набліжаюцца да апакрыфічнай, свабоднай інтэрпрэтацыі рэлігійных канонаў.

Такім чынам, і „Хрыстос нарадзіўся", і „Малітва", і „Паэту", і „Шчасце Мацея" — гэта творы, якія ў нейкім сэнсе выяўляюць сумненні аўтара ў вартасці рэлігійных ісцін. Праўда, гэтыя сумненні ў розных творах выяўлены па-рознаму, але ўсе названыя вершы пранізаны нітачкай аўтарскага скептыцызму. Здавалася б, што адсюль толькі адзін крок да сцвярджэння: Гарун — атэіст. Аднак сцвярджэння такога не будзе. Чаму? А хаця б з тае прычыны, што Гарун напісаў верш „Бажанне". Вось яго тэкст:

> Не прашу я, Божухна, скарбамі
> ўладаці, —
> Дай мне толькі сілы зарабляць,
> каб жыць,
> Каб і ў дзень, як прыйдзе мне
> душу аддаці,
> Хлеб я свой штодзённы працай
> мог здабыць.
> Не прашу я, Божухна, твайго свету
> знаці, —
> Усе пачаткі, змены, і канцы,
> і рух, —
> Дай адно людскую праўду мне
> паняці
> І яе быць верным, найпадданьшым
> з слуг.
> І усё тут, Божухна, чым патурбаваці
> Я хачу сягоння, просячы цябе:
> Дай мне праўду знаці і ў людзях
> спаўняці,
> І заўсёды з працы хлеб свой мець
> сабе.

Вось у гэтым вершы ёсць тое, чаго не было ў творах „Хрыстос нарадзіўся", „Малітва", „Паэту". Верш пранізаны рэлігійнай пакорлівасцю, пасіўнасцю, паслухмянасцю. Калі ў папярэдніх вершах моцна гучаў матыў скептыцызму, крытыцызму і бунту, дык тут дамінуе малітвенная просьба. Паэт выпрошвае ў бога сіл і здольнасці, каб разумець праўду.

Можна гаварыць аб самапаніжэнні паэта, аб яго мінімалістычнай праграме. Паэт не імкнецца пазнаць праўду аб складаных законах сусвету. Абмяжоўваецца найбольш элементарнымі справамі, зводзячы ўсю сваю праграму да працы і заспакаення элементарных бытавых патрэб. Калі з папярэдніх вершаў выглядаў тып скептыка, бунтара, дык у вершы „Бажанне" маем дачыненне з тыповым „божым чалавекам", які ведае адно: яго лёс, яго жыццё ў руках бога.

І так, паўторым ужо па сутнасці сказанае: Гарун, мабыць, не быў ні катэгарычным атэістам, ні рашучым дэістам.

# Як не скардзіцца...

Кепскай рэпутацыяй карыстаецца пункт сельскагаспадарчых паслуг у вёсцы Мокрае, які падлягае кааператыву сельскагаспадарчых гурткоў (СКР) у Бельску. Абслугоўвае ён сялян з Мокрага, Дубяжына, Райкаў, Казлоў, Леўкаў і Кнарыдаў. Працуе там 13 трактарыстаў. Жыхары спамянутых вёсак скардзяцца на несумленную працу трактарыстаў, кажуць, што няма ў іх ніякай дысцыпліны і што вельмі ж да спадобы ім гарэлка. Не слухаюцца яны нават загадчыка пункта. Часта так бывае, што едуць яны не да таго селяніна, да якога ён высылае, а да таго, да якога самі хочуць, бо ведаюць, што гэты паставіць... А пасля, вядома, па-рознаму бывае. Адзін „скосіць“ касілкай плот пасярод вёскі (як было гэта ў Мокрым), або перакуліць трактар дагары коламі і адпачывае сабе ў рове (дзе так было, не толькі жыхары Мокрага ведаюць). Іншая адмоўная з'ява — гэта тое, што трактарысты ездзяць сабе куды захочуць і калі захочуць. Найчасцей гэта здараецца ноччу. Удзень трэба ж сваё малако завезці на пункт скупкі, а то і збожжа ў млын, а часамі і вугальку трэба дадому падкінуць. Толькі ўначы нікуды ўжо за якой-небудзь патрэбай не трэба ехаць, дык тады, не маючы ўжо ніякіх клопатаў на галаве, пакатацца вось так сабе можна. А што ж зробіш, што трактар не легкавая машына і ляскаціць, быццам апантаны? Што, бывала, аднавяскоўцаў разбудзіш? Дык гэта рэдка калі бывае. Асабліва летам спяць яны моцна. Хіба хто так сабе прачнецца. Вечарам або ноччу і на кіраўніка не так лёгка напароцца.

Здараюцца яшчэ іншыя спосабы ўхапіць так сабе трактар, а потым шукай ветру ў полі. Вядома ж, што трактарыст павінен і сабе то заараць, то пасеяць, то скасіць. Возьме тады ён трактар на адзін дзень, а пратрымае яго і тыдзень. Захоча тады хтосьці заказаць сабе машыну, а тут няма ні трактара, ні трактарыста. Аблічылі нават макрэнцы, што каб усё абрабіць на гаспадарках трактарыстаў, дык самім ім трэба прыдзяліць ажно два трактары.

Не падаем прозвішчаў тых трактарыстаў, якіх даўно варта было б пакрытыкаваць. Можа, дырэкцыя СКР у Бельску гэта зробіць? Варта ўсё такі было б.

Ехалі мы аднойчы ды заехалі на базу макрэнскага пункта сельскагаспадарчых паслуг. Вось тут-та робіцца! Колькі ж тут сельгасмашын-інвалідаў! Вынялі мы блакнот і пачалі запісваць. Ды каб усе запісаць — блакнота не хапіла б. Былі выведзены са строю снопавязалкі, касілкі, культыватары, чатыры глебагрызалкі (адна з іх разабраная на запасныя часткі), бараны, рвачка ільну, ратацыйная касілка, малатарня, чатыры абмалотачныя агрэгаты (адзін з іх амаль да няшчаснага выпадку не давёў — у час працы лопнула драўлянае ўмацаванне, і людзі рынуліся ў машыну — ажно на барабан з цапамі), жняярка (служыла яна ўсяго адзін сезон). Хіба ж гэта мала?

Зайшлі мы ў будынак, у якім усё што хочаш. Ёсць тут апырсквачы і хімічныя рэчывы для апырсквання, нават гаручае, рамонтная майстэрня. Трактарыстам і механікам служыць ён таксама за месца, дзе збіраюцца на абед. Што гэта негігіенічна? А як жа мае быць інакш? Тут няма вады, бо няма студні. Яшчэ горш, няма нават прыбіральні. За сваёй патрэбай каці сабе ў поле... або за будынак (трэба дзесьці схавацца).

І апошняе. На 13 трактарыстаў і двух механікаў на базе пункта ў Мокрым ёсць усяго адна скрынка з ключамі. Як маюць яны працаваць?

І як тут не скардзіцца?..

(ця)

## Ф·А·Л·Ь

Б.




*Однэ сонце сходыт, другое заходь*
*а там богач до дыўчыны*
*штовэчора ходыт,*
*а там богач до дыўчыны*
*штовэчора ходыт,*
*— Богачу, богачу, нэ ходы до мэнэ,*
*ты богаты, а я біедна —*
*нэ возьмэш ты мэнэ,*
*ты богаты, а я біедна —*
*нэ возьмэш ты мэнэ.*
*— Нэ возьму, нэ возьму, але*
*находжусе,*
*я з тобою, сэрцэ мое,*
*хоч наговорусе,*
*я з тобою, сэрцэ мое,*
*хоч наговорусе.*
*Возьму я крысэлце, сяду край*
*оконця,*
*шчэ й очы нэ спалі,*
*а ўжэ сходыт сонце,*
*шчэ й очы нэ спалі,*
*а ўжэ сходыт сонце.*
*— Очы ж, мое очы, што вы думаетэ:*
*усю ноч на розмовы,*
*„Ой, дурны той хлопэць —*
*богату шукае“.*
*„Ой, дурны той хлопэць —*
*богату шукае“.*
*Богата — рогата на мыэжыэ лежала,*
*біедна, а хороша*
*тры копы нажала,*
*біедна, а хороша*
*тры копы нажала.*
*Возьмы собіе жону з мызэрного*
*дому —*
*той наробыт хліеба*
*шчэ й позычыт кому,*
*той наробыт хліеба*
*шчэ й позычыт кому.*

Ад Веры Кошаль, 1926 года нараджэння, і Анны Парфенюк, 1923 года нараджэння, вёска Арэшкава гміны Дубічы Царкоўныя, запісаў 4 сакавіка 1975 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько. Песню спявалі на „кудзельніцах

# Што будзе з вытручанай пасекаю?

Эдмунд Прымака, кіраўнік сельскагаспадарчага гуртка ў Бабіках, вытруціў Аляксандру Ганчару ў Гаркавічах дваццаць шэсць вулеяў пчалінай пасекі.

— Мяне твае пчолы не цікавяць, — адрэзаў Прымака, калі Ганчар пачаў папракаць яго ў тым, чаму ён не паведаміў, што будзе апырскваць хімікатамі палеткі...

Пчолы давалі гаспадару сур'ёзны даход. Але Прымаку напляваць на чужыя страты! Прытым ён яшчэ і помслівы.

У жніво паехаў Ганчар да Прымакі, каб той накіраваў да яго снопавязалку. Прымака не адказаў яму, што не дасць машыны. Не такі ён працяцкі, як здавалася б з першага погляду. Прыняў Ганчара — а як жа! — і паглядзеў у спісак гаспадароў з Гаркавіч, якім прадбачана было даць у жніво машыны. У гэтым спіску не аказалася Ганчара...

— Але задатак ад мяне ўзялі, пяцьсот злотых, квіт нумар 711 ад 2-га ліпеня, — дамагаўся свайго Ганчар. Прымака развёў рукамі: не яго віна! Спісак склаў Іван Кастэцкі, вясковы аент з Гаркавіч, аб чым не ведалі ні члены праўлення гаркавіцкага сельскагаспадарчага гуртка, ні яго старшыня, якім з'яўляецца... Аляксандр Ганчар. Тады хто ж выбіраў Кастэцкага на таго аента?

Данута Кудашэвіч з агратэхнічнай службы ўзялася пераконваць Прымаку, што Ганчару ўсё-такі трэба дапамагчы, даць яму тую снопавязалку... Але ж Прымака не будзе слухаць жанчыны. Ён і гаварыць з ёю не захацеў! Што яму Данута Кудашэвіч, калі нават сам начальнік Бабіцкай гміны застаўся бяссільны ў гутарцы з Прымакам... Ганчар наіўна даверыўся, што снопавязалку атрымае, сама прыедзе да яго... Не дачакаўся яе, не прыехала!

Ганчар з жонкай неяк абдолелі жніво. Тыя пяцьсот злотых задатку, пэўна яшчэ ляжаць у прымакоўскай касе. Ну, а што будзе з вытручанай пасекаю? Хто заплаціць за яе знішчэнне? Можа Прымака... Так было б справядліва. (ся)

# Зачараваны свет Карпука

Спачатку маляваў ён на асфальце коней. Вялікія, грывастыя, адзін за другім імчаліся яны па плоскасці дарогі ў вядомую толькі ім і іх творцу даль. А потым усё пачалося ад бручкі, ад простай бручкі, якую гуляючы з малодшым братам Віктарам, вырваў з градак. Сваёй мяккасцю і дзівосна пакрыўленым выглядам разбудзіла яна ў Антосю, вучню трэцяга класа пачатковай школы № 3 у Бельску, дрэмлючы талент. У дзіцячай галаве нарадзілася думка, каб выразаць з яе чорта. Гэта і быў той першы крок у разьбу, які ад бручкі прывёў яго да дрэва. З дрэвам, аднак, быў клопат. Цяжка было яго раздабыць, а да таго яшчэ ў горадзе. Прыходзілася шукаць па вёсках, пакідаючы ўзамен плады сваёй працы. Яшчэ дасюль стаіць у Галадах драўляны дзядок, за якога атрымаў даволі многа ліповага матэрыялу.

Цяпер Антосю Карпуку 17 гадоў. Жыве ён разам з бацькамі на вуліцы Чырвонай Арміі ў Бельску. Пасля заканчэння пачатковай, паступіў у прафесіянальную школу ў Гайнаўцы. Веды на тэму разьбы, апрача кніг, паглыбляе штодзённай практыкай. Працуе шмат. Калі толькі мае вольную хвіліну, бярэ ў рукі кавалак дрэва і сваёй работы ножыкі і пачынае выразваць. Сядзіць датуль, пакуль не пачне зарысоўвацца форма задуманай постаці. Закончыўшы, урачыста ставіць фігуру ў сваім пакойчыку, у якім памяшчаецца яго драўлянае каралеўства. Тут і суровы твар рыцара, тут і галава салдата з арлом на касцы, тут і старэнькі пастух сядзіць маркотна, павесіўшы голаў, і жанчыны з пахудзелымі тварамі ў задуменні ўглядаюцца ў невядомую даль, і дзяўчаты весела ўсміхаюцца. А на стале, нібы ў пушчы, размясціліся звяры. Наперадзе стаіць, схіліўшы ўніз голаў, стары барадаты зубр, што прывёў папасвіць сваю чараду, да якой з другога канца стала прыглядаецца ўжо мядзведзь. Ёсць тут і мышы, і ласка, і бабры. Прысела таксама адпачыць і курапатка, якая ледзь уцякла ад арла. Проста цяжка адарваць вочы ад гэтага дзіўнага, зачараванага свету.

Каб не так хутка нішчыліся, малады разьбяр пакрывае свае драўляныя істоты лакам. Тады і вада не пашкодзіць, і ад сонца не так будуць лопацца.

Недахоп дрэва і не надта дасканалыя прылады абмяжоўваюць размеры разьбы. А Антось Карпук усё імкнецца да натуральнай велічыні. Будучы на летніх канікулах у сваёй сястры недалёка ад Голдапа, стварыў фігуру 180-сантыметравага і 80-кілаграмавага Мешка I, вядомага польскага караля. Працаваў над ёю два тыдні.

— Маім жаданнем, — гаворыць творца, — было б пазбіваць кавалкі ліповага дрэва і зрабіць зубра, натуральнай вагі і велічыні.

У апошні час працуе ён над грушавым пнём. З кожнага сука мае паўстаць чалавечая галава. Што гэта за галовы — пакуль яшчэ таямніца.

**М. Шаховіч**
фота **Я. Цялушэцкага**



Беларусіяна

# Дабро, змешанае са злом...

У тыднёвіку „Літаратура“ № 24/174 Міхал Ягела піша аб творчасці Васіля Быкава, асабліва аб яго апошняй кніжцы, што з'явілася на польскай мове: „Дажыць да світання“.

Паводле Ягелы, Быкаў стаў вядомы ў Польшчы пасля выдання ў Варшаве яго кніжкі „Альпійская балада“. Першай была „Трэцяя ракета“ ў 1963 годзе.

Вайна паказана Быкавым без надуманага пафасу, без фейверкаў. Салдат у яго — гэта просты працаўнік вайны, які вымушаны прымаць цяжкія рашэнні, пераважна ў крайніх сітуацыях. Героі яго кніжак, зазвычай, пакінуты самім сабе; у самы важны для іх момант застаюцца жахліва адзінокімі. Іх пачынанні заканчваюцца трагічна. Выбіраюць яны самы цяжкі шлях, каб захаваць вернасць сваім ідэалам, часта нават не да канца ўсвядомленым. Гінуць з перакананнем, што іх ахвярнасць мела сэнс.

Усёй сваёй творчасцю беларускі пісьменнік Васіль Быкаў даводзіць да нашай свядомасці вартасць учынкаў, якія, здавалася б, з'яўляюцца нелагічнымі. Такіх, якія не змяшчаюцца ў простай ацэнцы з'яваў, канкрэтнасці вынікаў дзеяння. (Іваноўскі падарваў мінаю ўсяго двух немцаў, што везлі фуру сена, і сам загінуў разам з імі).

Вобраз вайны, прапанаваны Быкавым, з'яўляецца далёкім ад схематызму. У ім змешана дабро са злом, выяўлены найбольш таемныя ды сарамлівa затоеныя думкі, імкненні. Салдат не заўсёды страляе толькі да ворага... Пісьменства Быкава надзвычай супярэчлівае, адважнае, з безупыннымі вяртаннямі да папярэдніх матываў, і ў гэтым, між іншым, і заключаецца яго веліч.

*„Быкаў з'яўляецца вялікім пісьменнікам“*, — сцвярджае М. Ягела. Чытаць Быкава — гэта нялёгкі занятак. Ён не прызнае адназначных сітуацый, аднапраблемнасці; чытаеш яго са сціснутым горлам.

**Сакрат Яновіч**

